# Народны Звон

Беларуская радыкальная часопісь. Орган „Цэнтрасаюзу“.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9, кв. 22

Прыйём інтарэсантаў ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес.—50 гр.

Год I. Вільня, 28 лістапада 1930 г. №. 5




## Вынікі выбараў.

Сучасныя выбары ў Сойм далі такі вынік, якога ніхто напэўна не чакаў: беларусы страцілі ўсе мандаты і ў Сойме ня будзе ані воднага прадстаўніка ад беларускага народу.

Праўда, там зноў засядзе наш нязьменны і вечны пасол п. Ярэміч, але хіба-ж нават ён сам будзе мець настолькі такту, што не залічыць сябе да прадстаўнікоў беларускага народу, бо, як вульгарна выражаюцца нават самі былыя яго таварышы па „партыі“—пралез ён у Сойм ашуканствам,—выключна галасамі ўкраінцаў, якія паставілі яго на трэцім мейсцы свайго дзяржаўнага сьпіску.

Калі адкінуць гэты інцыдэнт з п. Ярэмічам, то мы стаімо перад вельмі сумным для нашага грамадзкага жыцьця фактам—беларусы, дзякуючы розным прычынам, на якіх мы ня будзем ту затрымлівацца, — ня маюць свайго прадстаўніцтва ў Сойме...

Нават у Латвіі, дзе беларусаў знаходзіцца ўсяго толькі невялічкая жменька — ёсьць бел. паслы, якія бароняць беларускую справу перад латвійскаю большасьцю. А ў нас?..

Гэты сумны факт, маючы гістарычную вагу, бязумоўна адаб'ецца вельмі балюча на нацыянальным пачуцьці сьвядомай часткі нашага народу.

Іншыя народы, якія аказаліся больш „шчасьлівымі“ і якія прыхільна адносяцца да беларускага народу—могуць выражаць толькі сваё спачуцьцё і працягваць яму руку помачы для ўратаваньня ад аканчальнай загубы і дэмаралізацыі.

Мы верым, што ніхто з нашых шчырых прыяцеляў ня будзе радавацца з прычыны розных перашкод, якія спатыкаюцца на шляху нашага нацыянальнага і палітычнага адраджэньня.

Толькі ворагі беларускага народу могуць цешыцца з таго палажэньня, якое ўтварылася ў нас, даводзячы ўсім, што беларускае пытаньне памерла для Польшчы сваёй прыроднай сьмерцю.

А такіх „дабрадзеяў“ пры нашых варунках—хоць адбаўляй,—але яны нам не страшны і ня ў сілах перашкодзіць зьдзейсьненьню нашых аканчальных мэтаў, да якіх імкнецца беларускі народ у сілу адвечных прыродных законаў.

Нашыя „прыяцелі“ цешацца, трыумфуючы перамогу над антыпаньствовымі меншасьцямі і ў сваім радасным ап'яненьні даходзяць нават да таго, што проста скідаюць з рахунку існаваньне беларускага народу.

Ня ўсьпеў яшчэ закончыцца аканчальны падсчот галасоў у выбарных урнах, як гэтую радасьць далося заўважыць на старонках такіх, напрыклад, газэт, як „Słowo“, публіцысты якой зусім „шчыра“ шкадуюць, што ў сучасны Сойм прайшло вельмі мала жыдоў і зусім не гавораць пра тое, што беларусы не правялі туды ані воднага свайго прадстаўніка і то не па сваёй віне...

Падобныя разважаньня і падобныя трыумфы над пабітымі меншасьцямі лішні раз выяўляюць ні што іншае, як „добрыя інтэнцыі“ часткі польскага грамадзянства адносна гэтай справы наагул — інтэнцыі, якія добра ведамы беларускаму грамадзянству.

Але як сучасныя выбары, так і артыкулы некаторых польскіх публіцыстаў ня могуць пераканаць нас, што беларускі народ памёр і што яму мейсца на могілках.

Адсутнасьць нашага прадстаўніцтва ў Сойме, якая тлумачыцца прычынамі ад нас незалежнымі, але добра ведомымі нашаму грамадзянству, бязумоўна будзе мець вельмі ўемныя насьледкі для ўсяго нашага грамадзкага жыцьця і гэтыя вынікі праз нейкі час адчуюць вельмі многія „оптымісты“.

Гэты нябывалы ў гісторыі факт, што 2-х мільённы народ застаўся без свайго прадстаўніцтва будзе выкарыстаны праз няпрошаных апякуноў, якія на гэтай падставе будуць з пасьпехам разьвіваць сваю дэмагогію, даводзячы, што „польскі фашызм“ задушыў аканчальна нават праблескі нацыянальнага і грамадзкага беларускага жыцьця. Гэтая агітацыя будзе мець пасьпех нават сярод найбольш нацыянальна сьвядомай часткі нашага грамадзянства, якое бязумоўна ніколі не прызнае за нармальнае зьявішча вытварыўшуюся сытуацыю. Усё гэта вядзець да таго, што падрываюцца ўсе магчымасьці да згуртаваньня нашага народу каля пазытыўных лёзунгаў і скіраваньня яго высілкаў на творчую працу ў розных галінах грамадзкага жыцьця.

Вынікі апошніх выбараў расчысьцілі дарогу для дэмагогаў і расчынілі ім вароты ў самую гушчу нашага народу.

Яны настолькі ўтрудняць працу ў кірунку нацыянальнага ўзгадаваньня нашых масаў, а гэтым самым адцягненьня іх ад уплываў варожых нашай нацыянальнай ідэі—што насуваецца нават пытаньне—ці можа хоць якая небудзь група ідэовых беларусаў узяць на сябе адказнасьць за „упарадкаваньне“ ідэолёгіі нашага народу.

І здаецца нам, што ён ніколі пры сучасных умовах ня выйдзе з таго палажэньня, якое польскімі публіцыстамі завецца „антыпаньствовым“.

Тая частка польскага грамадзянства, якая не нэгуець існаваньня „беларускага пытаньня“—любіла паслугоўвацца тым аргумэнтам, што адною з галоўных перашкод для пазытыўнага вырашэньня гэтага пытаньня, зьяўляецца неадпаведнае соймавае прадстаўніцтва ад беларускага народу, якое займалася толькі дэструкцыйнай працаю.

Цяпер дзякуючы апошнім выбарам,—наш народ зусім пазбаўлены прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце і гэтым самым прапала тая „перашкода“, якая быццам зьвязвала рукі польскім урадам у рэалізацыі яго добрых інтэнцый адносна беларускай справы.

Бліжэйшая будучыня пакажа нам, як будзе выкарыстана сучасным урадам гэтая „спрыяючая“ акалічнасьць...

## Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі газ. „Народны Звон“.

Гэтым папераджаем нашых чытачоў, што з 1-га сьнежня г. г. газэта будзе высылацца **толькі тым, хто вышлець падпісную плату за наступны месяц.**

Усякая газэта можа выходзіць рэгулярна і рассылацца чытачом толькі тады, калі яны **прысылаюць падпісную плату.**

Той, хто цікавіцца беларускаю справаю — мусіць падтрымаць сваю газэту.

## Арышты ў Клецкай Гімназіі.

22 лістапада ў 3 гадзіны дня будынак Беларускае Гімназіі ў Клецку быў акружаны паліцыяй, якая ўвайшла ў памяшчэньне Гімназіі падчас лекцыяў і арыштавала 11 вучняў. Ува ўсіх памяшчэньнях гімназіі і інтэрнатаў, а так-жа ў прыватных кватэрах заарыштаваных вучняў адбыліся вобыскі, адначасна арыштаваны былы дырэктар гімназіі грам. Грыгор Якубёнак.

У той-жа дзень звольнены былі 5 заарыштаваных вучняў. Рэшта з вучыцелем Якубёнкам адпраўлена ў Нясьвіжскі вастрог.

Грам. Якубёнак быў на выбарах у Сойм кандыдатам Цэнтрасаюзу на сьпіску № 22.

Пал. Алеся.

## Восень.

Час цёплага лета
Прыгожай вясны,
Астаткі ўспамінаў —
Салодкія сны.
Панурая восень
Сарвала лісты,
Гусіныя крыкі —
Астаткі красы.
Завялі ўжо краскі,
Ні духу вясны,
Сабраны ўжо нівы
Цьвітуць верасы.
А там незабавай
Глядзіш — маразы...
Усалі пасьцелі
На полі ляглі.
У хмары з засады
Сьняжынкі пайшлі,
У брамах і полі
Навеі ляглі.
Час цёплага лета,
Прыгожай вясны
Астаткі ўспамінаў
Салодкія сны
Да яснай і цёплай
Наступнай вясны.

Ф. Манюшчыца.
10/IX 1930 г.

## Сьнежань—месяц нашай прэсы.

Жыцьцё паказала слабасьць нашай грамадзкасьці, што асабліва ярка выявілася падчас апошніх выбараў у Сойм і Сэнат.

Адной з прычын гэтай слабасьці зьяўляецца амаль поўная адсутнасьць беларускай прэсы.

Каб стварыць моцную прэсу — патрэбна ня толькі чытаць газэты, якія выпадкава пападаюць у рукі чытача, — але падтрымоўваць іх матэрыяльна, акуратна высылаючы падпісную плату. Мала гэтага. Трэба пашыраць свае газэты і часопісы, заахвочываючы суседаў і знаёмых да прэнумараваньня іх і высылкі належнай аплаты.

Толькі тады газэта можа рэгулярна выдавацца і даваць цікавы матэрыял. Без матэрыяльных сродкаў, якія ў нармальных выпадках зьбіраюцца выключна з падпіской платы ніякая газэта і часопіс ня можа існаваць.

Гэта трэба добра памятаць кожнаму сьвядомаму беларусу, які павінен быць зацікаўлены ў пашырэньні сваёй роднай прэсы.

Апынуўшыся ў вельмі цяжкіх матэрыяльных варунках, як наша газэта так і сельска гаспадарчы кооперытыўны месячнік „Саха“ могуць існаваць толькі тады, калі само грамадзянства возьмець іх лёс у свае рукі і падтрымаець іх, акуратна высылаючы падпісную плату.

З мэтаю пашырэньне сярод беларускага грамадзянства газэты Народны Звон і Сахі — вызначаецца месяц Сьнежань—як месяц нашай прэсы. У працягу ўсяго гэтага месяца ўсе нашы прыхільнікі павінны заняцца самай усільнай агітацыяй за пашырэньне падпіскі на газэту і часапіс.

Кожная наша вёска павінна мець хаця-ж бы на некалькі платных падпісчыкаў і тады будзе магчымасьць рэгулярна высылаць газэту і пашырыць яе фармат.

Тыя з грамадзян, якія прыдбаюць ня меней 10 платных падпішчыкаў на нашу газэту — будуць атрымоўваць бесплатна час. Саху у працягу таго тэрміну, на які будуць высланы грошы за газэту.

У працягу гэтага месяца сьвядомая частка беларускага грамадзянства павінна напружыць усе свае высілкі на тое, каб стварыць магчымасьць для нармальнага існаваньня беларускай прэсы.

У гэты месяц павінны стварыцца моцныя кадры нашых платных падпішчыкаў, якія палажаць фундамэнт для разьвітку беларускай прэсы.

**Прачытаўшы газэту — перадай другому.**

## ЗАЯВА.

У зьвязку з распараджэньнем Мін стра Рэлігійных Спраў і Публічнае Асьветы ад 7.I. 1925 г. у справе школьнага ўставу ад 31.VII. 1924 го у. я, ніжэйпадпісаны паўнамоцнік сял н вёскі . . . . . . . . . . . . . . . . гэтым перасылаю „. . ." штук дэклярацыяў на „. . . ." дз-цей у справе беларускае выкладовае мовы ў школе ў вёсцы . . . . . . . . . . . . .

Ад грамадзян вёскі . . . . . . . . . . . .

| № | Імя і прозьвішча бацькі, маткі ці апякуна | Імёны дзяцей, паданых у дэклярацыях |
|---|---|---|
| 1 | | |
| 2 | | |
| 3 | | |

Подпіс паўнамоцніка . . . . . . . . .
Дня „. ." . . . . . . . . . 1930 . г.
Адрэс: пошта . . . . . . . . . . . .
вёска . . . . павет . . . . . .

**БАЦЬКІ! падавайце Інспэктару, як можна, больш дэклярацыяў аб навучаньні вашых дзетак у беларускай мове.**

**Школьны век дзіцяці лічыцца ад 7 гадоў без 4-х месяцаў да 14 гадоў і 4-х месяцаў.**

**ГРАМАДЗЯНЕ! Дамагайцеся аб ператвараньні польскіх школаў на беларускія.**
**Формы дэклярацыяў і інструкцыі можна атрымаць: у Цэнтральным Саюзе Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Установаў Вільня, Вострабрамская № 9—2.**

Форма дэклярацыі

# Дэклярацыя.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* ........................................ *грамадзянін (ка)*
(імя і прозьвішча)
*Польскае Рэчыпаспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* ........................................
(назоў вёскі, места)
*воласьці* .................... *павету* .................... *як бацька *)—маці—*
(назоў воласьці) (назоў павету)
*праўны апякун дзіцяці—дзяцей—у школьным веку.*

*1.* ........................ *3.* ........................
(імя дзіцяці) (імя дзіцяці)

*2.* ........................ *4.* ........................
(імя дзіцяці) (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. № 79, poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў існуючую — маючую адкрыцца публічную народную школу ў* .................... *беларускае выкладовае мовы.*
(назоў вёскі, места)

*Дня* .................... *193* ...... *г.* ........................................
(уласнаручны подпіс).

**Да Школьнага Інспэктара**
*ў м.* ........................................
(назоў места)

*) У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы закрэсьліць.

# Усячына.

## Археолёгічныя раскопкі ў Палестыне.

Вядомы эгіптолёг і археолёг прафэсар Вільям Петрі выехаў нядаўна ў Палестыну для прадаўжэньня сваіх досьледаў з дагістарычнай эпохі Абрагама Праф. Петрі ня гледзючы на свой стары век (мае ўжо 77 год) неўпынна вядзець сваю працу, асягнуўшы вельмі цікавыя вынікі.

Пад час апошніх сваіх раскопак пр. Петрі ўдалося зрабіць вельмі многа адкрыцьцяў, якія маюць вялікую вагу для запазнаньня з гісторыяю людзтва і жыдоўскай гісторыі асабліва.

У тых мяйсцох, дзе рабіліся раскопкі — жыў каля 7000 год таму назад чалавек г. зв. каменнага пэрыёду. Потым, як ведама, наступіў бронзавы пэрыёд, сьляды якога пр. Петрі адкрыў у прошлым годзе, далей ідзець пэрыёд пастушаскіх князёў, якія час ад часу панавалі над Эгіптам, далей ідзець нядоўгі час панаваньня эгіпэцкіх фараонаў (Петрі адкапаў двярэц эгіпэцкага праўцеля) і, нарэшце — эпоха ізраільцян, якая пачынаецца за 1500 год да Нар. Хр

Пр. Петрі зьбіраецца цяпер збадаць сляды, якія захаваліся ад часоў праміж каменным векам і эпохаю гіксаў (так зваліся князі пастухі) і маець надзею разам з тым выдабыць у Тэль-Элемэху, тое мейсца, дзе Абрагам прымаў чужынцаў пасьля гібелі Содома.

Досьледы над эпохаю Абрагама вядзець адначасна і другая экспэдыцыя, арганізаваная праз Папскі Біблейскі Інстытут і працуючая пад кіраўніцтвам патэра Маллона і француската віцэконсула Нэвіля. Гэтая экспэдыцыя працуе ў даліне Іордану — там дзе жыў Абрагам да разьбурэньня Садомы.

Прошлаю зімою у 8 кілёмэтрах на поўнач ад Мёртнага мора экспэдыцыя нашла сьляды места, якім напэўна быў біблейны Садом.

Трэба спадзявацца, што абедзьве экспэдыцыі знойдуць многа цікавых рэчаў, якія узбагацяць скарбніцу гістарычнай навукі.



Адказны Рэдактар: К. Крук. Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22. Выдавец: „Беларускі Цэнтрасаюз".